Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 20—(60). Вільня, 30 траўня 1928 году. Год II.



# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Сьвятаянская вул. (ul. Świętojańska) № 9, кв. 1. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Нягодны закід.

На адбыўшымся нядаўна судзе пракуроры задавалі сьведкам такое пытаньне: „Ці ня лічыў сьведка абвінавачанага за кар'ерыста?" Адносілася гэта да асуджанага Тарашкевіча. Гэты закід „кар'ерыста" робіцца кожнаму беларусу. Ня толькі тым, хто працуе ў палітычных, ці культурных арганізацыях беларускіх, але нават кожнаму сьвядомаму беларусу.

Калі такі закід падае з боку эндэцыі, польскіх ура-патрыётаў, якія дагэтуль ня хочуць зразумець таго, што існуе гэты народ ня толькі ў Польшчы, але жыве ён таксама ў межах СССР., у Латвіі і Літве, якіх не пераконваюць у гэтым існаваньні беларускія працэсы і страх эндэцыі перад беларусамі — гэта нас ня дзівіць.

Для эндэцыі, гэтае опортуністычнае, угодовае партыі, якая заўсёды станавілася на заднія лапы перад тымі, хто меў уладу і льсьціва патакоўвала ўсім пажаданьням былых царскіх губэрнатараў і паліцмэйстэраў у нашым краі і ў этнаграфічнай Польшчы, беларусы заўсёды будуць тымі людзьмі, якія нарушаюць спакой эндэцкага сумленьня, калі такое існуе ў іх.

Эндэкі ў угоду русыфікатарскае палітыкі перад 1914 г. і яшчэ ў 1915 г. публічна і офіцыяльна вуснамі Шэбэкі і Дмоўскага аддавалі Расеі „Северо-Западный Край", беларуска-літоўскія землі. Тады яны заяўлялі, што гэта землі ня польскія і што яны не зацікаўлены ў далучэньні іх да Польшчы, якую эндэцыя сьніла, як аўтаномную правінцыю Вялікае Расеі.

У 1921 г. эндэк Грабскі зрокся ў Рызе беларускіх земляў, якія можна было забраць аж па Смаленск, бо бальшавікі ня былі зацікаўлены ў затрыманьні яшчэ аднае, ці двух губэрняў пры СССР. Але эндэцыя баялася фэдэрацыйных пляноў маршалка Пілсудскага, баялася адбудовы вялікае Ягайлавае Польшчы і разьдзяліла Беларусь на дзьве часьці, ствараючы для польскага гаспадарства шмат труднасьцяў у разьвязаньні беларускае праблемы. Эндэцыя ў 1921 г. у Рызе памяншыла Польшчу.

Эндэцыя імкнецца выразна да зьнішчэньня беларускае сьведамасьці і аб гэтым сваём імкненьні выразна гаворыць. Эндэцыя ў сваём шавінізьме адносна нас мае толькі адзін назоў: мы беларусы толькі кар'ерысты. Мы рэнэгаты польскія, ці расейскія, але рэнэгаты, бо беларусы непатрэбныя для эндэцыі. Ці для дзяржавы гэткая палітыка добрая, ці благая, гэта эндэкаў не абходзіць, так сама, як не абходзіла іх у 1921 г. тое, ці Польшча будзе мець граніцы гістарычныя, якія мела перад падзеламі, ці тую, якую вывеў Грабскі ў Рызе і ці добра, ці блага выйдзе на гэтым Польшча і беларускі народ.

Для эндэкаў мы заўсёды астанемся кар'ерыстамі, рэнэгатамі, іх ніхто не пераканае.

Але, апрача эндэкаў, нам, беларусам, робяць закід у кар'ерызьме польскія групы, далёкія здавалася-б ад эндэцыі, якія разумеюць шкоднасьць эндэцкіх уплываў у жыцьці Польшчы і з імі змагаюцца.

Кар'ерызмам называем імкненьне да асягненьня асабістых матар'яльных карысьцяў. Асягненьне гэтае мае зьдзейсьніцца не за 100 год, не за 10 ці 5, а зараз. Кар'ерыстамі называюцца людзі без пераканаяньняў, без свайго „я", без свае думкі і пагляду. Яны маюць такі пагляд на справы,

які падабаецца начальству, сільным і ўладным людзям.

Кар'ерыстым быў каталік, які перад вайною, каб атрымаць працу і пасаду, пераходзіў на праваслаўе, бо тады праваслаўных усюды прымалі. Кар'ерыстым быў паляк, які адракаўся ад свайго народу, станавіўся расейцам і лічыўся лёяльным і „благонадзёжным“ для ўлады. Такіх было шмат. Кар'ерыстымі былі-б беларусы, якія-б цяпер выракліся свайго нацыянальнага пачуцьця, запісаліся палякамі, каб мець тыя, ці іншыя выгады. Ня былі кар'ерыстымі тыя палякі, што змагаліся за правы для сябе і свайго народу: за польскую школу і за польскую мову ўва ўрадах. Не кар'ерыстымі, а вялікімі патрыётамі свайго народу і Бацькаўшчыны былі тыя палякі, якія змагаліся з царызмам за Незалежнасьць Польшчы.

Тое, што сказалі мы аб палякох, трэба аднясьці і да беларусаў.

Дык агідным зьяўляецца роблены сьвядомаму беларусу закід, што ён кар'ерыст. Такі закід можна з пэўнай доляй праўдзівасьці аднясьці да тых беларусаў, якія хацелі-б завясьці ў нас камунізм, якія ня рупяцца аб нацыянальным і палітычным адраджэньні беларускага народу, а толькі аб злучэньні яго з чырвонаю Масквою, якая можа заўтра стацца вельмі белай і душыць беларускі нацыянальны рух, як гэта рабілі цары.

Але нельга рабіць такога закіду беларусам адраджэнцам, чыстым нацыяналістым, якія ня хочуць нікога ўціскаць і прасьледаваць, але дабіваюцца таксама, каб не прасьледавалі і беларусаў за тое, што яны беларусы. Бо-ж беларус у Польшчы ня мае ніякае карысьці ад таго, што ён падае сябе за беларуса. Наадварот, яму было-б куды выгадней і спакайней, калі б ён запісаўся ў палякі, перастаў думаць і змагацца за правы для беларускага народу, а стаў разам з польскімі шовіністымі вынарадаўляць беларусаў, шырыць „заходнюю культуру“, але чужую для нашага народу.

Ён быў-бы такім самым кар'ерыстым, якім быў паляк перад вайною, што прыймаў праваслаўе, лічыў сябе „истинно-русскимъ“ і, як мог, уціскаў усё польскае. Мерка для палякоў і беларусаў павінна быць адна і тая самая.

Гэтая мерка для беларусаў, якія ня хочуць перастаць быць беларусамі, зусім не падходзіць. Мы не кар'ерысты, мы ідэалісты, ня гледзячы на ўсё благое, што нас спатыкае за тое толькі, што маем... адвагу быць беларусамі, сынамі старога славянскага народу, які ў прошласьці на палёх Грунвальду ў 1410 г. супольна з польскім народам бараніў Польшчу ад нямецкае сілы і перамогі.

Наш ідэалізм, бескарыснасьць пераможа ўрэшце ўсе цёмныя сілы, злосьць і ненавісьць да нас, і пазволіць нам стацца зразумелымі для тых нават, хто мае цяпер адзін толькі для нас назоў, крыўдны і агідны: кар'ерысты.

## Сапраўдная дэмагогія.

На паседжаньні Сойму 23 траўня галасамі сялянскіх польскіх партыяў, П. П. С. і нацыянальных меншасьцяў быў адкінуты ўрадавы праект аб увядзеньні двох новых падаткаў — грунтовага і будынковага.

Гэныя два новыя падаткі урад быў змушаны ўвясьці, кіруючыся неабходнасьцю выраўнаньня недабораў, якія паўсталі з прычыны падвышэньня выдаткаў буджэту.

Такое становішча большасьці Сойму, дало магчымасьць п. Cat'u, гэрольду польскага монархізму і імпэрыялізму, да дэмагагічнага выступленьня процiў сялянства, як такога, ў газэце „Słowo“.

П. Cat лічыць, што становішча апазыцыі соймавай падыктавана толькі дэмагогіяй, а вынік галасаваньня называе перамогай дэмагогіі. Далей ён піша даслоўна: „Найбольшая лікам кляса люднасьці (сяляне) ня хоча плаціць падаткаў“.

П. Cat, далей даводзячы, што ня можа быць параўнаньня паміж шляхтай, якая за часоў Рэчыпаспалітай не хацела плаціць падаткаў, але ўсё-ж такі плаціла, а сягоньняшнім селянінам, які паводле яго, здэмаралізованы праз лаўцоў пасольскіх мандатаў, ня толькі ня хоча, але і ня плаціць падаткаў. У далейшым працягу свайго артыкулу п. Cat сноўць менш больш такія самыя думкі і канчые так: „Сытуацыя стаецца вельмі ясная. Інтэлігэнт, чыноўнік мусіць недаядаць, бо селянін, дзеля таго, што сяляне найбольшая лікам кляса людмасьці, ніякіх падаткаў плаціць ня хоча“.

Трудна сапраўды сказаць, дзе ў гэным артыкуле п. Cat'a канчаецца дэмагогія, а дзе пачынаецца проста цынізм.

Ці п. Cat ня ведае, хто плаціць падаткі ў Польшчы, з каго гэтыя падаткі сьцягваюцца да капейкі? Ці яму ня ведама, хто ня плаціць падаткаў і каму яны маюць быць дараваны. Так званы маёнткавы падатак, сяляне і наагул дробныя платнікі заплацілі да капейкі, а ці заплацілі яго абшарнікі, вялікі промысел?

Так сапраўды толькі гэрольды монархізму, якія лятуцяць аб кароне, а можа і паншчыне, могуць сабе пазволіць на кіданьне такіх дэмагагічных закідаў тым, з чыйго граша і мазаля яны, як і цэлая дзяржава, жывуць. Трэба, панове, падыйсьці бліжэй да жыцьця вёскі, трэба вычуць і зразумець беды і недастатак селяніна, ня можна сьвядома фальшаваць праўды, бо праўдай ёсьць, што селянін падаткі плаціць, і што ўгінаецца пад іх цяжарам.

Мы ня хочам на гэтым месцы казаць, што падаткі непатрэбны, што іх ня трэба плаціць, але мусім заклеймiць дэмагагічную ману паноў монархістых, адносна таго, што селянін ня плаціць падаткаў.

Да гэтай пары, толькі сялянскія і работніцкія гушчы лёяльна і з вялікай ахвярнасьцяй спаўнялі свае грамадзкія абавязкі, а сфэры, якія рэпрэзэнтуе п. Cat, свае адносна дзяржавы абавязкі проста сабатавалі. Падобнае выступленьне людзей, якія, дзякуючы толькі шчасьліваму зьбегу акалічнасьцяў, прысвоілі сабе права выступаньня з падобнымі закідамі, сялянскія масы запамятаюць.

## Прыгавар у працэсе „Грамады“.

У аўторак 22 га траўня Віленскі Акружны Суд у складзе старшыні: Аўсянкі, судзьдзяў Ёдзевіча, Барэйкі і Бржозоўскага вынес прыгавар у працэсе „Грамады“.

Прыгаварам засуджаны б. паслы: Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Паўла Валошын і Пётра Мятла на 12 гадоў кожны;

Максім Бурсэвіч, сэкрэтар „Грамады“ і Фабіян Акінчыц, юрысконсульт „Грамады“ — на 8 гадоў катаргі кожны;

Янка Кузьміч, з в. Горнай Руды пав. Навагрудзкага, Якімовіч, Шушкевіч і Паддубік з Горадна, Я. Гелда з Верхлесься, Сакольскага пав., на 6 гадоў катаргі кожны;

Патапчук з Пружанскага пав., Сіняк, Якубчык, Ефімовіч і Шацько з Слонімскага пав., Драгун з Горадзенскага пав., Ковіч з Сакольскага п., Лабунька з Дзісьненскага пав. і Антановіч з Вялейскага пав. — на 5 гадоў катаргі кожны;

Кляўдыя Гоцька з Навагрудзкага пав., Баліцкі з Горадна, Колпак і Кот з Пружанскага п., Салыга з Лідзкага пав., Нікіфароўскі і Даніловіч з Дзісьненскага пав., Беламызы і Зданюк з Сакольскага пав. — на 4 гады катаргі кожны;

Патоцкі, Харкевіч і Янкоўскі з Ваўкавыскага пав. і Марчык з Слонімскага пав. — на 3 гады катаргі кожны;

Агулам з ліку 56 абвінавачаных засуджана 37 асобаў і 13 апраўданы.

Апраўданы: Р. Астроўскі, б. дырэктар гімназіі і беларускага банку, Антон Луцкевіч, Шнаркевіч, Коўш, Навакоўскі, Міськевіч, Гмыр, браты Варанковічы, Кавалёў, Казачонак, Кавалевіч, Карніловіч, Сакалоўскі, Стоцік, Смакіла, Шэвель, Крупіца і Мармыш.

Асуджаных прыгаварылі па 102 арт. II часьці. Абвінавачаньне па 110 арт. суд адкінуў.

Вязьні прынялі прыгавар спакойна. Сабраная публіка абкінула іх краскамі. Засуджаныя запялі „Ад веку мы спалі“. Гэтага-ж дня апраўданыя былі звольнены, а засуджаныя перавезены з Віленскай турмы ў розныя турмы Польшчы.

### „Robotnik“ аб прыгавары над грамадоўцамі.

Орган Польскае Партыі Социялістых „Robotnik“ так піша аб прыгавары ў працэсе „Грамады“ (24 траўня № 144):

„Пішучы некалькі дзён таму назад аб віленскім працэсе „Грамады“, мы назвалі цэлую справу трагэдыяй беларускага народу. Мы паказвалі, што ня можна шукаць разьвязкі гэтага пытаньня ў мёртвай літары Карнага Код.

Віленскі Акружны Суд засудзіў б. паслоў Тарашкевіча, Рак-Міхайлоўскага, Мятлу і Валошына на 12 гадоў катаргі кожнага, рад іншых абвінавачаных атрымаў прыгавары на 8, 6, 5, 4 і 3 гады катаргі.

Не крытыкуючы пастановы суда, лічым за неабходнае сьцьвярдзіць, што сумленьне польскай дэмакрацыі з гэтым прыгаварам згадзіцца ня можа.

Ляжа ён, як магутная скала, на шляхох далейшага развою Польскай Рэспублікі, на шляхох вядучых да шчырага чэснага паразуменьня палякоў з беларусамі.

Прыгавар ясны, на шчасьце не аканчальны. Мы верым, што Апэляцыйны Суд падыйдзе да справы з іншага пункту гледжаньня. Верым, што польская опінія абтрасецца ад уплываў „паліцыйна“-нацыяналістычнай псыхолёгіі, а прыгавары судоў ня могуць быць у супярэчнасьці з сьвядомай воляй опініі краю“.

---

Беларускае грамадзянства, якое дбае і хоча паразуменьня палякоў з беларусамі, верыць, так, як і польская дэмакратыя, што надзеі дэмакратыі зьдзейсьняцца.

---

## Аб гыпнотызьме.

(Гл. „Бел. Дзень“ № 18).

Весь у якіх варунках прышлося мне лячыць гыпнотызмам ад калецтва. Каб зарабіць трошкі грошай, наняўся я за настаўніка ў аднаго памешчыка ў Люцынскім павеце. Узяўся я падрыхтоўваць да гімназіі двух хлапцоў — сыноў памешчыка, дый памагаць з матэматыкі дачцы яго, дзяўчыне год 18, якая іншых мудрых рэчаў вучылася ад гувэрнанткі. Нудна на вёсцы ўвосень, асабліва чалавеку, нязьвязанаму з гаспадаркай. Вось падчас гутарак вечарамі і разгаварыліся аб гыпнотызьме.

Прыстала паненка да мяне: загыпнатызуй, ды загыпнатызуй. Я ўсё адмаўляўся, але ўрэшце ўступілася і матка: загыпнатызуйце, кажа, яе, каб раз урэшце перастала надаядаць Вам.

Ня было рады, трэба было паслухаць. Але ўсыпіць настаяшча, глыбокім гыпнатычным сном мне не хацелася, тым болей, што паненачка, здавалася мне, лёгка падаецца гыпнотызму. Дзеля гэтага, ня ўсыпляючы яе, я проста выцягнуў сваю руку і, гледзячы ей у вочы, наказаў:

— Трымай, паненка, абедзьвемі рукамі мае пальцы. — Яна ўзяла. — Ну, спрабуй цяпер, паненка, ці можаш пусьціць іх? — Яна разжала руку, — Ну што-ж — кажа, — ведама магу! — А цяпер трымай зноў, — наказаў я, — і глядзі мне ў вочы. — Яна ізноў узяла мае пальцы, а я гэтак востра, востра ў працягу некалькіх хвілін вачамі сваімі ўпіўся ў яе вочы, ажно заўважыў, што яна ня вытрымлівае сілы майго пагляду, і паненка пачала міргаць.

— Цяпер, паненка, ня можаш выпусьціць маіх пальцаў, — наказаў я. Яна памацавалася і сапраўды не магла. — Мама, не магу, дальбог не магу, — пачала яна казаць, амаль ня плачучы, і рукі яе ўсё крапчэй заціскаліся каля маіх пальцаў.

— Цяпер пусьці, — наказаў я, і яна паволі разжала свае рукі і выпусьціла мае пальцы.

Больш я гыпнатызаваць яе, ня гледзячы на ўсе просьбы, не хацеў. Тым болей, што і матка напужалася не на жарты. Як-жа — раптам дачка слухае, як Бога, нейкага хлапца. Хто ведае, да чаго ён можа намовіць маладую дзяўчыну? — Гэта малыя жарты, — казала яна. Праз некалькі часу аднак прышлося зноў зьвярнуцца да мяне з просьбай аб гыпнотызьме. Паненка, ўпаўшы з каня, вывіхнула сабе руку. Бедная дзяўчына стагнала і плакала, так ёй балела. Я падыйшоў да ложка, глянуў

## З савецкага жыцьця.

У Саветах, як ведама, свабоды друку няма. Існаваць тамака могуць газэты толькі камуністычнага напрамку, абавязкам каторых зьяўляецца выхваляць савецкі „рай“. А што гэты „рай“, як кажуць, „каму рай, а каму ўмірай“ дазнацца можна толькі з тэй ці іншай корэспондэнцыі, якая, па прыказу начальства, у сувязі з прызнанай бальшавікамі на апошнім зьезьдзе Кам. Партыі, неабходнасьцю самакрытыкі, падымае заслону сапраўднага савецкага жыцьця. Вось што піша аб жыцьці настаўнікаў у „Савецкай Беларусі“ некі Жук у артыкуле пад загалоўкам „Настаўніцкія будні“:

> „Па-нашаму, па-прафсаюзнаму,—кажа пан Жук, — калі настаўнік, ці настаўніца пераводзяцца бяз іхняй згоды на гэта, дык адміністрацыя павінна плаціць кампэнсацыю. Па думцы-ж Халопеніцкага РВК трэба ўжываць усе способы, каб магчыма было працаўніка перакінуць, а кампэнсацыі яму не плаціць.
>
> Настаўніцу Люцько Халопеніцкі РВК прымусова перавёў у другую школу. На заяву яе ў РВК ад 3.IX.27 г. аб выплаце ёй кампэнсацыі прадстаўнік РВК заявіў, што яна будзе зьнята з пасады, бо прапусьціла некалькі дзён заняткаў.
>
> Як громам бухнуў...
>
> — Ціха сядзі, т. Люцько, бо РВК так цябе запужае, што і ад кампэнсацыі адмовішся!...“

У чым тут справа? А вось у чым. У Саветах істнуюць прафэсіянальныя саюзы, гэтак званыя ў бальшавіцкай мове „профсоюзы“, якія маюць на мэце дбаць аб паляпшэньні эканамічнага быту яго сяброў. Істнуець, паміж іншымі, і настаўніцкі прафэсіянальны саюз. Здавалася-б, што ў дзяржаве, у якой, паводлуг заявы бальшавікоў, улада належыць да сялян і работнікаў, прафэсіянальныя саюзы, як прадстаўніцтва арганізаваных работнікаў, павінны мець вялікі голас. Тымчасам? А тымчасам, як відаць з гэтай маленечкай корэспондэнцыі, першы лепшы Районны Выканаўчы Камітэт, прадстаўнік савецкае ўлады ў вёсцы, знаходзіць гэтак лёгкі, і гэткі пэўны способ, каб спыніць зусім слушныя пастановы настаўніцкага профсоюзу, што „т. Люцько“ застаецца толькі сапраўды сядзець „ціха“, як кажа Жук, бо што можа бедны, дрэнна аплачваны т. Люцько, проці ўсемагутнага Р. В. Камітэту, які зьяўляецца для яго найвышэйшай уладай? А што ён сапраўды ёсьць найвышэйшай уладай, якая можа ня толькі яго „напужаць“ звальняючы з пасады, але рабіць з настаўніка зборшчыка падаткаў, агента сыскной паліцыі і г. д. аб гэтым нам кажа Жук далей:

> „На пленуме аднаго сельсавету сябра РВК заявіў насельніцтву:
>
> — Мы і настаўніцтва не шкадуем. Мы вось, напрыклад, сёлета зьнімаем з пасады шэсьць настаўнікаў! Аднаго за тое, што мае 2-х кароў ды коз... Мы іх і цяпер-бы, але... некім замяніць пакуль што!

Туткі характарнымі зьяўляюцца гэныя „дзьве каровы і козы“. Чалавек, які мае такі дастатак, гэта ўжо буржуй, контр-рэвалюцыянэр і з такім цэрамоніі няма чаго рабіць.

І цэрамоніі ня робяць, абы толькі знайшлося кім замяніць. Але слухайма, што далей піша Жук:

> — Браточкі, ня трымайце! Хутчэй! Часу няма!
>
> — Чаго ты, пасьпееш!..
>
> — Як „пасьпееш“?! Заўтра-ж зраньня трэба бегчы ў суседнюю вёску спаганяць страхоўку, падатак і інш.
>
> — Чаму гэта табе бегчы?
>
> — Сельсавет вылучыў!!!
>
> Настаўнікі паніклі галавамі, ды думаюць, думаюць аб тым, што будзе тады, калі с.-саветы пашлюць іх для адшуканьня самагоначных апаратаў? Мусіць, бедная застанецца школа.

Так, сапраўды беднай зьяўляецца школа, у каторай настаўнік, заместа таго, каб вучыць дзетак, мусіць спаганяць падаткі і страхоўку з іх бацькоў, альбо шукаць у іх самагонныя апараты, але яшчэ бяднейшымі і больш нешчасьлівымі зьяўляюцца настаўнікі, якія змушаны спакойна, з заложанымі рукамі глядзець, як марнуюцца іх сілы, і вёска грузьне ў непрагляднай цемры.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А вось яшчэ абразок, які добра характары-

---

ёй у вочы і па першаму майму наказу: „Засьні“, яна перастала стагнаць і зачыніла вочы. — Болю чуць ня будзеш, — наказаў я і разбудзіў яе. І сапраўды яна ня чула ніякага болю і калі прыехаўшы з мястэчка дохтар настаўляў ёй вывіхнутую руку — сьмяялася і жартавала. Дохтар дзівіўся і толькі дазнаўшыся аб тым, што я загыпнатызаваў яго пацыентку, зразумеў у чым справа.

Пасьля гэтага ізноў вестка аб маіх „цудах“ разышлася па людзёх. Дачуліся аб іх і ў суседніх вёсках.—Ёсьць,—казалі сяляне,—шаптун у маёнтку. Пашэпча нешта, пашэпча і памагае.

У рэзультаце гэтых гутарак прыходзіць раз да мяне баба з хлопцам і прыносіць два дзесяткі яек. — Да вас, — кажа — прыйшла, па ратунак. Вось хлопец мой п'е, прапівае ўсё да ніткі, ратуйце, памажэце.

Справа была сур'ёзная, адмовіцца ня было як. Я наказаў, каб прывяла яго вечарам. Прыйшлі. Пасадзіў я хлапца (было яму год каля 20-ёх) у мягкае крэсла, падлажыў пад галаву падушкі і пачаў гыпнатызаваць. Думаў, што шмат будзе работы, бо дзяцюк быў дужы, каранасты, як дуб. Але надзіва ўжо праз якіх пяць хвілін, зачыніў вочы і заснуў. Спаў ён са смакам, закінуўшы галаву, разявіўшы губы, пасьвістваючы носам.

— Эгэ, браточку, цяпер ты мой,—падумаў я. І тут-жа наказаў яму, што ня будзе мець ахвоты да гарэлкі, і гарэлка будзе яму сьмярдзець газай і мець прыкры смак. — Адчыні вочы і прасьніся, — наказаў я. Дзяцюк паволі, паволі адчыніў вочы, выцягнуўся і прачхнуўся. Ведаеце, памагло. У бліжэйшую нядзелю вярнуўся з мястэчка зусім цьвярозым, гарэлкі нават і ў губы ня браў. Радасьць бабы была вялікая, ня ведала як і адудзячыцца. Толькі праз тры месяцы зноў прыходзіць да мяне з плачам. — Панічу, напіўся, як сьвіньня, напіўся, — плакала яна.

Прывяла ізноў хлапца. Я ведаў, што гэткі гыпнатычны наказ з часам траціць сваю сілу і трэба было загыпнатызаваць зноў. — Як-жа-ж ты піў? — пытаюся я ў хлапца, — ці-ж не сьмярдзела? — Як не сьмярдзела? сьмярдзела, але я заткнуў нос і піў. — Ну, братка, ужо мы знойдзем способ на цябе. — Сьпі! — наказаў я. Хлапец заснуў цяпер лёгка, і тады я наказаў яму тое самае, што і раней, дадаўшы, што калі-б ён, ня гледзячы на ўсё, выпіў такі гарэлку, — дык яго вырве на ваніты.

Кажуць людзі, што праз два месяцы, зноў заткнуўшы нос прабаваў ён піць, але вырвала

зуе, якім сапраўды зьяўляецца Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт у Менску і як выглядае знамянітая яго беларусізацыя.

Вось што ў гэтай справе піша Тарас Колер на старонках „Савецкае Беларусі", асьвятляючы артыкул А. Прылуцкага „Імкненьняў мала", надрукованы ў № 71 „Савецкай Беларусі":

„А. Прылуцкі ў сваім артыкуле, — кажа Тарас Колер — адзначыў, што лекцыі па сямейнаму праву на 3 курсе праўнага аддзяленьня чыталіся на беларускай мове.

Лекцыі чыталіся — гэта так.

Але паглядзім, як аднеслося студэнства да гэтага, што прыходзілася чуць і бачыць? А вось што. Спачатку студэнты паднялі цэлы вэрхал супроць такога „новшества", вялі „переговоры" з дацэнтам, каб ён перайшоў на расейскую мову.

Але „переговоры" скончыліся няўдачай, бо з дацэнта пры назначэньні на кафэдру была ўзята падпіска, што ён будзе чытаць на беларускай мове.

Вось вам і беларусізаваньне на 30 процантаў, аб якім пішацца ў кніжцы „БДУ 1921-1927 г,"

Апрача таго, А. Прылуцкі пісаў, што на гэтымжа 3 курсе праўнага аддзяленьня вядзецца сэмінар па адміністрацыйнаму праву на расейска-беларускай мове. Тут трэба ад'значыць, што сэмінар гэты наведвае прыблізна палова студэнцтва, а другая палова наведвае другі сэмінар па адміністрацыйнаму праву, які вядзецца на расейскай мове.

Лічу патрэбным тут ад'значыць аб дыспутах, якія наладжваюцца ў унівэрсытэце. У нядзелю, 25 лютага гэтага году, быў наладжаны камсамольскім калектывам Праўгасу дыспут па апавесьці Гладкова „Пьяное солнце". Толькі адзін дакладчык т. Шукайла гаварыў на беларускай мове, усе-ж апанэнты ў ліку 12 асоб — большай часткай студэнты Праўгасу — гаварылі на расейскай мове.

Далей, 4 сакавіка гэтага-ж году, быў наладжаны дыспут аб „Выцэ студэнства". Як дакладчык, дацэнт Панцэвіч, так і ўсе апонэнты — прафэсура, дацэнты і студэнцтва — гаварылі выключна на расейскай мове.

Гэтыя прыклады таксама яскрава гавораць аб тым, як „шырока пастаўлена выкладаньне і вывучэньне студэнтамі беларускай мовы".

Змаганьне, якое вядзе беларуская нацыянальная думка ў нетрах унівэрсытэту з расейскім засільлем камуністых, якія падборам слухачоў-студэнтаў і прафэсуры стараюцца з Менскага Унівэрсытэту зрабіць расейскі — так кідаецца ў вочы, што не вымагае ніякіх паясьненьняў, і толькі яшчэ лішні раз даказвае ўсю фальш бальшавікоў і глыбіню тэй прорвы, якая існуе паміж тым, што яны гавораць і тым, што робяць.

---

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Культура грэчкі (Polygonum Fagopyrum).

Грэчка, як вядома, дае зярняты, якія служаць нароўні з ячменем для вырабу круп, або мукі.

Старажытным народам — грэкам або рымлянам грэчка ня была вядома; яна ўпяршыню занесена ў Эўропу з Сярэдняе Азіі падчас навалу манголаў (татар) на Расею, ў пачатку 13 стагодзьдзя, і з таго часу грэчка разышлася па ўсёй Эўропе.

Найбольш грэчкі сеюць у паўночнай Францыі, дзе на мала ўрадлівых грунтох яна зьяўляецца самым патрэбным і распаўсюджаным хлебам для беднага тамтэйшага насяленьня. Многа грэчкі сеюць у Нямеччыне, Швэцыі, таксама ў Сібіры, Туркестане, ў паўночным Кітаі, Японіі, і асабліва шмат у Расеі; не мала яе сеюць і на Беларусі.

Зярняты грэчкі надта багатыя мучністымі

---

ўсю гарэлку. Як далей было, ня ведаю, бо хутка я зусім адтуль выехаў.

Гэта быў не адзіны мой пацыент. З суседніх вёсак я яшчэ меў іх некалькі. Каго ўдалося ўсыпіць — памагала, адзін толькі, ня гледзячы на ўсе мае высілкі, гыпнотызму не паддаўся зусім. Як я дазнаўся, гэта быў сын бацькі-алькаголіка.

Прыходзілі да мяне яшчэ людзі, каб лячыць ім раны, верады, але я ня ведаў, як гэта рабіць і ня браўся за гэткія справы. Слава аба мне, як аб шаптуне, разышлась далёка ня толькі па вёсках. Меў я пацыентаў і з памешчыцкіх двароў.

Прыяжджае да маёнтку адзін раз некі памешчык з сваей дачкой. Ён быў трошкі знаёмы з маімі гаспадарамі, але жыў далёка і ніколі не заглядаў да іх. Дзеля гэтага пані ня мала зьдзівілася, убачыўшы яго брычку, запрэжаную парай сытых конікаў, пад'яжджаючую пад ганак.

Але справа хутка выясьнілася. — Даруйце, пані, — тлумачыўся ён гаспадыні, — што ня прошаны, ня кліканы наяжджаю да вас. Дачка, вось, мая, хачу, каб палячыць яе.

Тая адразу не магла зразумець у чым справа, але хутка выясьнілася: прыехаў панок да шаптуна. У чым-жа справа?

— Пазнаёмцеся, паночку, — казаў бацька, — дачка мая.

Я пакланіўся паненцы высокай, з блядным тварыкам, з прыгожымі чорнымі вачамі.

— Вось яна з выгляду слабая, але так нішто, здаровая, — казаў далей бацька. — Але вось мае адну дрэнную прывычку: як сядзе, дык згорбіцца. Не сядзіць роўна, як людзі, а гэтак хіліцца ў дугу. Ці ня можаце выпрастаць яе? Засьмяяўся я ў душы, але думаю: трэба памагчы. Хто ведае, мо' паненка жаніха мае і гэтая дуга стаіць на перашкодзе яе шчасьцю.

— Давайце, спрабуем, — згадзіўся я.

І спроба ўдалася.

Загыпнатызаванай я наказаў, каб седзячы ня горбілася, а трымалася проста. Можаце зразумець радасьць бацькі, калі ён убачыў рэзультаты лячэньня. Паненка сядзела роўненька, як струна. Бацька ня зводзіў з яе вачэй, усё прыглядаўся, а мо' зноў схіліцца ў дугу. Але яна сядзела роўненька, быццам праглынула кій.

— Ах, паночку, дабрадзею мой, — казаў ён на разьвітаньне. Цешыўся і я, атрымаўшы ад паненкі ў падзяцы доўгі пагляд яе прыгожых вачэй.

*Д. П.*

складнікамі і пры размоле даюць да 66% мукі, 14% отрубяў, 19% лускі і 1% — ідзе на распыл. З аднае грэцкае мукі хлеб даволі трудна сьпячы і ён ня надта смакуе, але калі дадаць да яе жытняе або пшанічнае і навет ячменнае мукі, або кукурузнае, то выходзіць добры хлеб, асабліва гэтакая мешаніна мукі надаецца на бліны.

Зярнятамі грэчкі часта кормяць птушкі, сьвіньні і асабліва добра карміць распаранымі зярнятамі або мукою маладых цялят, ад чаго яны хутка адкормліваюцца і даюць надта далікатнае і смачнае мяса.

Салома грэцкая, хаця часта паядаецца быдлам даволі ахвотна, але ўсё-ж такі дзеля малочных кароў не надаецца, бо ад яе зьмяншаюцца ўдоі малака, і апрача таго, калі дужа даваць аднае грэцкае саломы, асабліва пад вясну, то часта ў быдла зусім вылазіць шэрсьць, скура сьвярбіць, часамі выступае сыпка, а бывае, што хватаюць і сударгі.

Даволі часта хварэюць белыя сьвіньні, калі яны кормяцца аднэю грэцкаю мякінаю, і пад весну сьвіньня ўлезе ў ваду—зараз-жа пачынаюцца сударгі, шкура чырванее і сьвіньня крычыць, як быццам яе рэжуць. Гэта можна аб'ясьніць тым, што як салома, так і мякіна грэцкая мае ў сабе шмат паташу (калію), бо навет з грэцкае саломы ў некаторых мясцовасьцях дабываюць паташ (соду).

---

Грэчка мае сільны з мочкаватымі разгаліненьнямі старчкаваты корань, які даволі глыбока ідзе ў зямлю. Дзеля гэтага грэчка добра можа пераносіць засухі і ўдаецца на больш-менш малаўрадлівых землях. Грэчка забірае з зямлі найбольш усяго паташу (калію), дык вось дзеля чаго яна надта любіць *ўгнаеньне грунту пад яе печным попелам, або калійнымі (паташовымі) солямі і кайнітам*, ад чаго моцна павышае ўраджаі.

Што датычыць грунтоў, то грэчка многага не вымагае: часта аднолькава добра расьце, як на чыста пясчаных грунтох, так і на грунтох балацістых і тарфяністых, нават калі апошнія кіславатыя: *не ўдаецца яна толькі на цяжкіх, гліністых і моцна вапнаватых землях.* Надта клустыя грунты гэтак сама пад грэчку нягодныя, бо там яна дае большы ўраджай саломы, як зярнят, і вельмі няроўна і доўга цьвіце. Пад пасевы грэчкі вельмі надаюцца лясныя „*палы*“, гэта значыць баравыя месцы, дзе быў лес і спальваюцца яго астаткі, як сучкі, галіны—там часта грэчка дае баечныя ўраджаі.

Трэба заўважыць, што грэчка добра адценьвае сваімі шырокімі лістамі зямлю, якую надта ачышчае ад сьметнікоевых траваў.

У некаторых мясцовасьцях падчас уборкі грэчкі нярэдка вырываюць зусім грэчку з зямлі разам з карэньнямі: гэткі спосаб уборкі зусім нерацыянальны, (неразумны), бо на полі павінна заставацца грэцкая пожня, якая добра ўгнойвае зямлю і падгатаўляе грунт пад жыта. У некаторых старонах навет практыкуецца, што калі грэчка не ўдаецца, то яе прыорваюць дзеля ўгнаеньня, або пры добрых ураджаях пожню выпальваюць і сеюць жыта, што добра павышае ўраджай збожжа.

Некаторыя гаспадары лічаць грэчку малааплавальным або няпэўным хлебам, але гэткі пагляд зусім неправідловы: грэчка гэтак-жа, як і ўсякі іншы хлеб, дзеля выданьня добрага ўраджаю, вымагае лепшых грунтоў і добрых варункаў пагоды, асабліва падчас цьвіценьня. Апрача таго, грэчка добра заўсёды пераносіць засуху і нават заўважана, што яна часта найлепш удаецца ў тыя гады, калі іншае збожжа падводзіць гаспадара. Меншыя-ж ураджаі грэчкі можна тлумачыць тым, што ўсюды ўжо стала менш цалінных (навін) зямель і што раз то больш ненармальныя кліматычныя варункі, як гэта часта бывае, напрыклад, прымаразкі ў маі, або чэрвені, якія шкодзяць грэчцы.

Трэба заўважыць, што грэчка падчас цьвету лёгка пабіваецца нават лёгкімі прымаразкамі, або што яшчэ часьцей бывае, прыпальваецца моцнымі жарамі. Каб унікнуць гэтага, трэба заўсёды сеяць грэчку кожнаму гаспадару не ў адзін дзень, а ў два-тры разы, праз тыдзень, гэтак пачынаючы не раней як 10—15 чэрвеня ў нашых кліматычных варунках, тады напэўна будзе добры ўраджай зярнят грэчкі.

Тут трэба дадаць, што грэчка бывае на полі ня больш, як 10—12 тыдняў, і само цьвіценьне цягнецца якіх два тыдні, а якраз цьвет на грэчцы трымаецца ўсяго толькі два дні. Усякаму ведама, што цьвет грэчкі мае ў сабе надта салодкі мядовы сок, які пчолы ахвотна зьбіраюць і даюць шмат мёду. Пры гэтай рабоце пчолы адначасна і апладатвараюць грэчку. Цяпер будзе зразумелым, што калі грэчка, адзіночныя краскі якой трымаюцца ня больш двух дзён, пападзе падчас цвіценьня пад навальны дождж, буру, вялікі туман, словам, калі пчолы не вылятаюць, то тады гэткая грэчка мае дужа пустацьвету; гэтак-жа сама шкодзяць падчас цьвіценьня і надта моцныя гарачыні, ад чаго зярняты бываюць няпоўныя.

---

Поле пад грэчку трэба заўсёды араць яшчэ з восені, пакідаючы на зіму ў скібах, што дае надта добрыя рэзультаты. Вясною пад пасеў грэчкі пераараць плугам, або добра здрапакаваць пружыноваю бараною і ў сьвежую ральлю заразжа па небаранованай арбе сеяць грэчку, прыкрываючы зярняты на 2 на пяску і ня глыбей 3,5 сантымэтраў. Добрага і чыстага насеньня грэчкі высяваюць на гэктар ня больш як 6—8 пудоў (100 — 135 кілёгр.), бо пры рэдкаватым пасеве грэчка больш ідзе ў галінкі, а бакавыя атожылкі даюць большы ўраджай зярнят.

Сеяць-жа пасьледам, як гэта некаторыя робяць, і пры гэтым высяваючы часта 10 — 12 і больш пудоў на гэктар ніколі ня трэба, бу густа пасеяная грэчка цягнецца ўгару і мала нясе атожылкаў з зярнятамі.

Трэба старацца грэчку сеяць пад дождж, але калі стаіць сухая пагода, то гэта ня надта шкодзіць, бо зярняты грэчкі, праляжаўшы ў зямлі хаця-б і тыдзень, усё роўна добра ўсходзяць і ад летняй расы. Роўныя і густыя ўсходы грэчкі лёгка глушаць сьметнікоевыя травы і хутка заценьваюць зямлю, а калі сеяць горшым насеньнем, то грэчка сама можа быць лёгка заглушана травамі.

Грэчка заўсёды пасьпявае няроўна: пад той час, як на сярэдніх атожылках зярняты пасьпеюць, часта бывае, што на вяршочках яшчэ толькі завязваецца цьвет, дзеля чаго ня трэба чакаць на поўнае пасьпяваньне грэчкі, а касіць яе, як толькі большая часьць зярнят выпаўнілася і сама грэчка выглядае чарнаватаю. Надта клустыя грун-

ты пад грэчку не надаюцца, бо там будзе больш саломы, як зярнят. На сярэдніх, не вычарпаных грунтох грэчка часта дае ўраджаі 1280 — 1920 кілёгр. (80 — 120 пуд.) з гэктару, ў сярэднім-жа ўраджаі бываюць (1000 кгр.) 60 пуд., але бываюць гады, што грэчка дае ня больш 480—640 кілёгр. (30—40 пуд.) з гэктару зярнят.

Заўважана, што ў мясцовасьцях Беларусі, дзе грунты пясчана-чорныя (тарфяністыя), там пасьля грэчкі пасеянае жыта расьце надта добра, як-бы па поўным гнаі і нават лёгка зносіць засухі.

---

Па форме свайго цьвету і іншых азнаках, грэчка дзеліцца на дзьве групы: да першае адносіцца звычайная грэчка (Polygonum Fagopyrum esculentum), якая мае трохгранныя зярняты, (арэшкі) і самыя грані зярнят плоскія; зярняты-ж бываюць з крыльлямі, або бяз крыльляў (плеўкі на гранях). Крылатая грэчка найбольш разводзіцца на поўначы Эўропы і ўсходзе Расеі, а бяскрылая—на палудні і заходзе Эўропы. Крылатая грэчка больш ураджайная, дае большыя зярняты, лягчэй пераносіць ранешнія прымаразкі, але затое вымагае лепшых і невычарпаных грунтоў.

Калі выпадае сеяць грэчку на землях бедных—пясчаных, або па жытнішчы і пасьля аўса, то надта добра даць пад грэчку штучныя гнаі, з якіх на першым пляне трэба адначасна з пасевам грэчкі расьсеяць 200—300 кілёгр. (12—18 п.) *супэрфосфату* і на зусім пясчаных грунтох *паташовай солі* (*калійнае* 20%) — *якіх 100 кілёгр.* (6 пуд.). Часамі вымагаецца даць па ўсходах грэчкі *чылійскай або харжоўскае салетры* да 50 кіл. (3 пуд.), ад чаго надта падвышаецца ўраджай грэчкі.

На заканчэньне трэба сказаць аб спосабе прыгатаўленьня з грэчкі цэлых, гэтак званых „салдацкіх" круп. Дзеля гэтага бяруць зярняты грэчкі, насыпаюць ў ражку і абдаюць іх кіпнем, пасьля чаго зараз-жа высыпаюць на рэшата, каб сьцякла вада; трохі абсохшыя зярняты ставяць у гаршкох у печ на вольны дух, напрыклад, пасьля хлеба; затым прасушыўшы таўкуць зярняты ў ступах, адсейваюць муку і выходзяць грэцкія крупы з цэлых зярнят.

Склад зярнят грэчкі ў сярэднім гэткі: Вады—14,1%, бялкоў—11,3%, жыру—2,6%, крахмалу—54,8%, клетчаткі—14,4%, попелу—2,8%, дык вось, як бачыце, варта сеяць грэчку, каб мець больш добрых круп і мукі на блінцы.

*Я. Х.*

---

# Падняцьце культуры дробных гаспадарак—шлях да пераходу усяе зямлі у рукі сялянства.

Ува ўсіх дзяржавах, якія па характары свае вытворчасьці належаць да тыпу земляробскіх — падняцьце сельскай гаспадаркі і павялічэньне яе прадукцыі зьяўляецца аднэй з аснаўных задач іх эканамічнае палітыкі. Да тыпу такіх дзяржаваў належыць і Польшча. Рацыянальнае вырашэньне гэнае задачы, гэта падняцьце дабрабыту сялянства, гэта павялічэньне экспортнай сілы дзяржавы, гэта стабілізацыя валюты, гэта разьвіцьце яе фабрычнай прамысловасьці—гэта ўрэшце моцны фундамэнт для далейшага росквіту ўсіх галін эканамічнага яе жыцьця.

З вырашэньнем гэнае аснаўное задачы цесна зьвязана зямельная рэформа. Дзеля гэтага ня дзіва, што і дзяржаўныя ўлады і эканамістыя і розныя палітычныя партыі пасьвячаюць ёй шмат увагі. Справа зямельнае рэформы, пастаўленая на чыста эканамічны грунт, павінна быць скіравана на стварэньне такога тыпу сельскіх гаспадарак, які зьяўляецца найбольш прадукцыйным, інакш кажучы, такога тыпу гаспадаркі, ў якой з кожнай жменькі зямлі можна дастаць найбольш дабра. Адказу на пытаньне, які тып сельскай гаспадаркі зьяўляецца найбольш прадукцыйным, трэба шукаць у навуковых досьледах. Дагэтуль нажаль істнуюць на гэтую справу два пагляды.

Адзін,—які кажа, што найбольш прадукцыйнай зьяўляецца тып буйнай вялікай сельскай гаспадаркі і другі, які кажа, што найбольш прадукцыйнай, зьяўляецца сярэдняя, а нават дробная сельская гаспадарка. І адзін і другі пагляд мае сваіх староньнікаў, якія прыводзяць для свайго пацьвярджэньня шмат доказаў. Староньнікі прадукцыйнасьці вялікіх сельскіх гаспадарак кажуць, што як у фабрычным промысьле рамесьнікі ня могуць змагацца з фабрыкантамі, якія на вялікіх фабрыках лепш і танней могуць рабіць розныя рэчы, чымся рамесьнікі ў сваіх дробных майстэрнях, так сама і ў галіне сельскай гаспадаркі будучыня належыць да вялікіх сельскіх гаспадарак, каторыя дзякі разьвіцьцю тэхнікі патрапяць танней і больш дастаць багацьця з зямлі, чымся дробныя і нават сярэднія сельскія гаспадаркі.

Прыкладам, які прамаўляе за другім паглядам, зьяўляецца вялікая прадукцыйнасьць дробных сельскіх гаспадарак у Даніі, Швайцарыі і інш. дзе прадукцыя іх стаіць на вельмі высокай вышыні і зусім ня ўступае інтэнсыўным абшарніцкім гаспадаркам.

Ведама прадстаўнікі розных соцыяльных групаў хапаюцца таго пагляду—які для іх зьяўляецца выгаднейшым. Староньнікамі пагляду, што вялікая сельская гаспадарка больш прадукцыйная, як дробныя, зьяўляюцца ў нас абшарнікі, а ў Саветах камуністыя *).

Староньнікамі другога пагляду зьяўляюцца прадстаўнікі сялянскіх палітычных групаў.

З гэтых розных паглядаў, здаецца, можна зрабіць адзіны вывад, што дробная сельская гаспадарка пры сучасным разьвіцьці сельска-гаспадарчай тэхнікі і сельска-гаспадарчай навукі, мае ўсе шансы, каб ня ўступіць па сваёй інтэнсыўнасьці абшарніцкай, і навуковыя досьледы ўсё больш перахіляюцца на бок гэтага пагляду. Ведама, для гэтага патрэбны адпаведныя варункі, а найважнейшы з іх: *каб дробныя сельскія гаспадары ўмелі весьці сваю гаспадарку згодна з вымагамі навукі.*

---

*) Вось як, паводлуг справаздачы газэты „Зьвязда" акрэсьліў пагляд камуністых на дробную сельскую гаспадарку Сталін у дакладзе сваім на актыве Маскоўскай партыйнай арганізацыі.

„А што такое дробная сельская гаспадарка? Гэта ёсьць самая незабясьпечаная, самая прымітыўная, самая неразьвітая і самая нетаварная гаспадарка. А ў гэтым уся сутнасьць, таварышы. Угнаеньні, машыны, агранамічныя веды і іншыя ўдасканаленьні, гэта такія рэчы, якія могуць быць з пасьпехам ужыты ў буйных гаспадарках, але якія ня маюць, альбо амаль што ня маюць ужываньня ў дробнай сельскай гаспадарцы. Вось у чым слабасьць дробнай гаспадаркі і вось чаму яна ня вытрымлівае конкурэнцыі з буйнымі кулацкімі гаспадаркамі".

Цяпер нажаль у вялікай большасьці нашых дробных сялянскіх гаспадарак прадукцыйнасьць іх вельмі малая. Сяляне нашыя ня ўмеюць гаспадарыць, ня ўмеюць дастаць усяго таго багацьця з зямлі, якое можна дастаць з яе пры ўмелай, культурнай гаспадарцы. Вось гэты нізкі ровень культуры нашых дробных сельскіх гаспадарак ёсьць адна з найвялікшых перашкодаў для бездакладнага правядзеньня зямельнае рэформы ў Польшчы, якая пабудавана згодна з тым паглядам, што будучыня належыць да сярэдняй і дробнай сельскай гаспадаркі, як да найбольш прадукцыйнай і ў канчатковым сваім рэзультаце сьцірае абшарніцкія гаспадаркі з твару зямлі.

Зямельная рэформа, маючая па мэце падняць сельска-гаспадарчую вытворчасьць, стаіць перад вельмі труднай праблемай. З аднаго боку пераход да дробных сельскіх гаспадарак суліць вялікія надзеі на падняцьце агульнае сельска-гаспадарскае прадукцыі *у будучыне*. З другога зноў боку *ў сучасны момэнт*, калі, агулам бяручы, вытворчасьць дробнай сельскай гаспадаркі стаіць куды ніжэй ад буйнай—поўнае скасаваньне гэтага тыпу сельскіх гаспадарак, *адразу* значна панізіць сельска-гаспадарчую прадукцыю, бо, дастаўшы ў свае рукі зямлю, сялянства ня толькі не патрапіць дабыць з яе болей, чым дабывала буйная гаспадарка, але значна меней. І гэткі стан рэчаў мусіць трываць да тэй пары, пакуль сяляне не навучацца гаспадарыць больш інтэнсыўна. Гэта сумны але бясспрэчны факт, што ў сучасных варунках дробная сельская гаспадарка па вытворчасьці сваёй стаіць значна ніжэй ад абшарніцкай і зьяўляецца галоўным тормазам для радыкальнага правядзеньня зямельнае рэформы.

Праводзячы зямельную рэформу, дзяржава адначасна павінна дбаць і аб падняцьці інтэнсыўнасьці нашых дробных сельскіх гаспадарак. Але аб гэтым павінны дбаць ня толькі дзяржава, але павінна зразумець і *дбаць аб гэтым таксама і нашае сялянства*.

Яно павінна ведаць, што шчырых прыхільнікаў пераходу ўсяе зямлі дробным сельскім гаспадаром, у чым гэтак зацікаўлена цяпер галоўным чынам толькі сялянства, яно тады знайдзе і паміж шырокімі гушчамі грамадзянства ўсяе дзяржавы, за выняткам хіба толькі абшарнікаў. Фабрычныя работнікі, працоўная інтэлігенцыя, якая вельмі зацікаўлена ў дабрабыце сялянства, яшчэ больш зацікаўлены ня тым, у чыіх руках будзе зямля, а тым, каб гэтая зямля дала магчыма больш дабра. Бо толькі павялічэньне сельска-гаспадарчай вытворчасьці дасьць магчымасьць вывазу значных лішкаў хлеба і іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў за граніцу, бо толькі высокая культура сельскай гаспадаркі можа прычыніцца да стварэньня моцнага фундамэнту для разьвіцьця фабрычнага промыслу і гэткім чынам даць фабрычнаму работніку пэўны заработак, а ня тое, абшарнік, ці селянін будзе ўладаць зямлёю.

Дзеля гэтага, фабрычны работнік, працоўны інтэлігэнт ня будзе вельмі цешыцца, калі скажам тая ці іншая высока-культурная абшарніцкая гаспадарка перайдзе ў рукі сялянства, а будзе цешыцца толькі тады, калі, дастаўшы гэную гаспадарку ў свае рукі, сяляне патрапяць з яе дастаць прынамсі столькі дабра, колькі дабывала высока-культурная абшарніцкая гаспадарка. А калі з гэтай зямлі новы гаспадар яе — сялянства дастане меней, то для фабрычнага работніка ад гэтага будзе толькі страта.

Аб гэтым павінна добра ведаць нашае сялянства і імкнуцца ўсімі сіламі да падняцьця культуры сваіх дробных гаспадарак. Бо толькі тады, калі пераход зямлі ў рукі сялянства ня зьменшыць сельска-гаспадарчай вытворчасьці, толькі тады за пераходам усяе зямлі ў рукі сялянства будуць стаяць ня толькі, як цяпер, дробныя гаспадары, гаспадаркі каторых вымагаюць прырэзкі, але і з'арганізованыя масы фабрычных работнікаў, працоўнай інтэлігенцыі, і ўвесь народ, уся дзяржава. Гэта нажаль не заўсёды спатыкае зразуменьне з боку шырэйшых кругоў сялянства, якое прывыкла разглядаць справу зямлі толькі з свайго чыста эгоістычнага сялянскага боку, кажучы: зямля павінна быць наша, бо мы працуем на ёй. Гэта ня так. Калі ўжо аб справядлівасьці ідзе, дык зямлю стварыў Бог, каб яна магла карміць і жывіць усіх людзей. Аднак ня ўсе людзі маюць магчымасьць працаваць на ёй. Тады па справядлівасьці зямля павінна належыць да таго, хто патрапіць дастаць з яе больш дабра. Гэтак сапраўды і ёсьць. Хто ня ўмее працаваць на зямлі, хто ня ведае сакрэтаў, як выкарыстаць яе пладавітыя сілы, хто ня ўмее дастаць з яе ўсіх скрытых у ёй скарбаў—з рук таго яна ўцякае. Уцякае аднолькова з рук памешчыка — калі ён занядбае яе, так сама як і з рук таго ці іншага дробнага гаспадара селяніна, калі ён марнуе гэны скарб Божы,—і паволі пераходзіць у рукі тых, хто ўмее на ёй працаваць, і можна сьмела сказаць, што ў будучыне ўся зямля будзе толькі ў тых руках, якія з яе патрапяць дастаць найбольш багацьця.

Навуковыя досьледы, ня гледзячы на спрэчнасьць сваіх вывадаў, усё ясьней і ясьней выказваюць, што гэтыя рукі, гэта мільёны сельскіх гаспадароў. І ў руках іх калісь будзе ўся зямля, але толькі тады, калі гэта будуць ня рукі сьляпых, цёмных, марнуючых скарб Божы, людзей, а рукі людзей разумных, ведаючых як вырваць гэнае багацьце з нетраў зямлі.

Каб ускорыць гэны працэс, працэс пераходу зямлі ў рукі сялянства, яно само, як найбольш зацікаўленае ў гэтым, павінна напружыць усе свае сілы, каб магчыма хутчэй здабыць веду апрацоўкі зямлі, здабыць сакрэт, як дастаць з зямлі ўсё ўложанае ў ёй багацьце.

У гэным кірунку сялянства не павінна чакаць толькі дапамогі з боку дзяржавы, але сваімі рукамі тварыць сваю долю, гуртуючыся ў арганізацыі, якія-б мелі на мэце памагчы ім у гэтай справе, тварыць сельска-гаспадарскія гурткі, кооперативы, вучыцца ў іх гаспадаркі, вучыцца як супольнымі сіламі радзіць там, дзе сіла аднаго гаспадара ня здолее памагчы бядзе, ня мінаць ніводнага спосабу, каб здабыць гэны вялікі сакрэт доставаньня скарбаў з зямлі, памятуючы, што зямля будзе належаць да тых, хто найбольш патрапіць дастаць з яе багацьця.

*Д. П.*

---

## Карэньні канюшыны і іншых бабовых расьлінаў, як удабрэньне грунту азотам.

У папярэдніх нумарох нашае газэты, ўжо некалькі гутарылася, што нашым грунтом вельмі патрэбны азотныя ўдабрэньні і што ўдабрэньне іх салетрай ці наагул гнаямі, якія ўтрымоўваюць азот, зьяўляецца неабходным дзеля павышэньня ўраджаю і лепшага росту. Але пры карыстаньні гэткімі гнаямі, як салетра, ёсьць яшчэ і ня вельмі прыемныя бакі для нашых сялян, дзеля таго, што яна зьяўляецца вельмі дарагім удабрэньнем і таму калі ўдабраць ёю нашыя грунты, дык не заўсёды аплачваюцца выдаткі ўраджаямі. Гэткім чынам падымаецца пытаньне, што рабіць нашаму селяніну і як выйсьці з гэтага становішча? Зразумела, выхад вельмі просты: — зрабіць усё, каб азотныя ўдабрэньні, салетра і інш. былі-б як мага таньнейшымі і тады іх выгадна і карысна было-б ужываць. Але яшчэ лепш пашукаць новых крыніц азоту і азотнага ўдабрэньня, зразумела таньнейшых. І вось за гэткія пытаньні ўзялася сельска-гаспадарчая навука і дала гэткі адказ: што сярод расьлінаў, якія сеюцца на нашых грунтох, адны вельмі патрабуюць азотных удабрэньняў— гэта будуць: жыта, пшаніца, авёс, ячмень, грэчка, лён, бульба і інш.; а другія расьліны—як гарох, віка, канюшына, боб і наагул усе расьліны называныя бабовымі, у якіх плады падобныя да бобу, зусім не патрабуюць азотных удабрэньняў. Мала таго, гэтыя бабовыя расьліны ня толькі не патрабуюць азотных удабрэньняў, але нават пасьля іх грунт, дзе яны расьлі, робіцца багаты азотнай ежай.

Гэтае становішча, вельмі важнае і карыснае для сялян, сельска-гаспадарчая навука разабрала і вытлумачыла прычыну аказалася, што ўсе бабовыя (яны-ж разам і матыльковыя) расьліны на сваіх карэньнях маюць невялікія ўтаўшчэньні ў постаці маленькіх жалвачкоў ці клубеньчыкаў. Дзякуючы працы гэтых клубеньчыкаў (ці жалвачкоў) усе бабовыя расьліны бяруць патрэбную ім азотную ежу з паветра ў постаці газу—азоту, якога ў паветры вельмі многа ($^4/_5$ паветра складаецца з азоту). Гэткім чынам, бабовыя расьліны, дзякуючы вышэй сказаным клубеньчыкам-жалвачком, не вымагаюць азотных удабрэньняў, а наадварот, шмат зьбіраюць азоцістых рэчаў у сваіх карэньнях, а таму іх карэньні зьяўляюцца гэткімі астаткамі, ў якім шмат азоту і гэтыя астаткі могуць замяніць сабой азотныя ўдабрэньні, г. зн. салетру і інш. Значыцца, пасевы бабовых расьлінаў прыносяць гаспадаром не адну карысьць сваім сенам і насеньнем, але і другую, яшчэ большую, карысьць сваімі карэньнямі, якія абагачваюць грунт азотам і тым самым замяняюць сабой салетру і г. д. Асабліва шмат карнявых астаткаў, багатых азотнымі рэчамі, а значыцца замяняючых салетру, астаецца ад чырвонай канюшыны. Калі поле было пад канюшынай два-тры гады, дык яго карэньні, астаўшыся ў грунце гэтага поля, ўтрымліваюць у сабе прыблізна столькі-ж сама, колькі будзе ў 120 пудох гною, ці ў 3—4 пудох салетры.

Зразумела, карэньням канюшыны неабходна згніць, каб знаходзячыйся ў іх азот зрабіўся даступным для карэньняў другіх пасеяных расьлінаў. Гніеньне-ж карнявых астаткаў канюшыны ідзе хутчэй, калі будзе добра апрацавана зямля пасьля канюшыны, а дзеля гэтага зьяўляецца неабходным, сабраўшы канюшыну, як мага лепш разгарацы канюшынны дзірван. З усяго вышэйсказанага мы бачым, што пасеяныя на нашых палёх бабовыя расьліны (гарох, віка і інш.), а асабліва чырвоная канюшына даюць сена і ў той-жа час сваімі карэньнямі ўдабраюць наш грунт дорага каштуючым азоцістым удабрэньнем.

Усё гэта паказвае, што ў гаспадарцы ніяк немагчыма абыйсьціся без пасеваў канюшыны, і кожнаму селяніну патрэбна мець на ўвазе, што калі ён ня будзе яе сеяць, дык разам з гэтым прынясе вялікі ўбытак для свае гаспадаркі.

Калі-ж дзеля якіх-колечы прычынаў не зьяўляецца магчымасьці сеяць канюшыну, дык неабходна гэтак, каб частка яравых палёў была занята іншымі бабовымі расьлінамі: гарохам, вікай і г. д. Усе яны абагачваюць грунты азотам, таму пасевы іх, дзеля падтрыманьня ўраджайнасьці грунтоў, зьяўляюцца неабходнымі.

*С.*

# ПЧАЛЯРСТВА.

### Мядовыя расьліны.

(Гл. № 19 „Б. Д.“).

Кожны пчаляр павінен добра знаць усе мядовыя расьліны ў сваёй мясцовасьці, як гэтак сама і павінен знаць час і працяг іх красы. Ня гледзячы на тое, што пчолы амаль што не са ўсіх кветак зьбіраюць мёд, ці нэктар, аднак-жа ня ўсе расьліны могуць лічыцца мядовымі ў найлепшым сэнсе гэтага слова, а толькі тыя, якія даюць працантова больш для пчолак пажытак. Гэтакіх расьлінаў, якія сапраўды *багатыя* сокам, з якога пчолкі перарабляюць мёд, ёсьць ня надта ўжо шмат. Большасьць з іх маець гэтага соку надта малы процант. Дзеля гэтага імення пчаляр павінен арыентавацца, што да расьлінаў, якія даюць шмат мёду, з прычыны чаго яны і называюцца *мёдадайнымі*. Наша бацькаўшчына Беларусь, ёсьць багатая ў рознага гатунку краскі, а дзеля гэтага ёсьць-ка і прыдатная для развою пчалярства.

Трэба аднак-жа ад'значыць, што калі-б пчалярства ў нас паднялося на належную вышыню і калі-б яно пачало вясьціся на шырэйшую нагу, дык тагды трэба было-б абавязкава паклапаціцца пчаляру самому ўжо забясьпечыць пашу для пчолак, сеючы рознага гатунку мядовыя расьліны, бо тыя расьліны, якія растуць у нас дзіка, якраз-бы ня здолалі дастарчыць пчолкам пад дастаткам пашы. Памятаваць аб управе мёдадайных расьлінаў павінны тыя пчаляры, якія ўжо і цяпер маюць больш-менш вялікія пасекі, зложаныя з 60 да 100 вульлёў. Для такіх ужо пасекаў, як-бы ваколіца ня была багатая ў дзікія мядовыя расьліны, пашы для пчолак усё роўна ня выстарчыць. Тут ужо сам пчаляр павінен прысьці пчолкам на помач, сеючы на адумысна адведзеных дзеля гэтай мэты вучастках, мядовыя расьліны, тым болей, што некаторыя з іх, апрача карысьці, якую могуць прынясьці для пчолак, могуць даць селяніну яшчэ і другую карысьць у постаці насеньня, якое надта дорага цэніцца. З гэтых расьлінаў прыходзіцца ўспомніць галоўным чынам аб *белай канюшыне* (дзяцеліне) і аб *эспарцэце.*

Самыя важныя расьліны для збору мёду, гэта будуць: *яблані, ігрушы, вішні, чарэшні, церпёўнік, маліньнік;* усе гэтыя расьліны забясьпечваюць пчолкам раньні пажытак.

З другіх расьлінаў, забясьпечваючых пчолкам узятак у часе багатага мёдабраньня, будуць галоўным чынам *белая канюшына* (дзяцеліна), *ліпа, грэчка, эспарцэт.*

Потым ідуць:

*Белая і жоўтая акацыі*, даюць шмат нэктару, карысна садзіць у няпрыгодных, запушчаных месцах.

*Аніс* даець шмат нэктару.

*Бярэзіна* даець шмат клею, які ідзець на замазку розных дзірак і шчылінаў у вульлі.

*Васілёк* даець нектар.

*Верас* даець мёд чорны, горшага гатунку, яго ніколі ня трэба астаўляць на корм пчолам.

*Глухая крапіва* даець шмат пяргі.

*Грэчка*, гэта наш галоўны ўзятак, даець шмат нэктару і пылок.

*Доньнік белы* (*Melilotus albus*), даець мёд і пяргу.

*Агуркі, дыні, гарбузы*, даюць шмат нэктару.

*Ажына і маліна*, даюць нэктар і пяргу.

*Жымаласьць*, даець шмат мёду.

*Кіпрскі чай*, даець шмат нэктару і пяргі.

*Вербы*, розных гатункаў, як вялікія, так і кусты даюць шмат раньняга мёду, пяргі і клею.

*Каштан конскі (Echulus hyppocostanus)*, даець нэктар, пылок і клей.

*Агрэст і чорны смуроднік*, даець нэктар і пылок.

*Ліпа*, даець надта шмат нэктару. На гэтае дрэва нашыя пчаляры павінны зьвярнуць якнайбольшую ўвагу; а гэта дзеля таго, што мёд ліповы ёсьць надта добры для здароўя, і што з гэтае прычыны ён надта дорага цэніцца ў прадажы. Садзіць можна ліпы каля вуліцы паабапал, па межах пляцу і наагул там, дзе ёсьць вольнае месца, няпрыдатнае для разводу іншых расьлінаў.

*Люцэрна* пасеўная і дзікая (M. folcata) даець мёд і пяргу.

*Маніса* даець нэктар.

*Матачнік* (*Dracolephalum moldavicum*) даець нэктар.

*Агурэчная трава* даець шмат нэктару, цьвіцець да маразоў.

*Малачай жоўты*, даець мёд і пылок.

*Арэшына*, даець толькі пяргу.

*Разыда*, даець нэктар і пяргу.

*Рожа, мальва* (*Althea rosea*), даюць шмат нэктару.

*Сьвірэпа і рапак зімовы і вясновы*, даюць шмат нэктару і пяргі. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на рапак і старацца яго чым болей сеяць у поблізе, тым болей, што ён даець апрача добрае пашы для пчолак і шмат насеньня, з якога надта многа можна выгнаць *алею.*

*Кмен*, даець мёд і пяргу.

*Таполі*, даюць шмат пяргі.

*Кроп*, даець нэктар.

*Сіняк*, (*Echicem vulgare*), даець шмат мёду і пяргі.

*Хвацелія*, годная для вольнага збору, сеецца тры разы на год, цераз кожныя два тыдні, даець шмат пахучага мёду.

*Цыкорыя*, даець шмат нэктару і пяргі.

*Чартапалох*, даець шмат нэктару.

*Эспарцет*, таксама вельмі багаты нэктарам.

Яблыны і ўсе садовыя дрэвы даюць нэктар і пяргу.

Апрача ўсіх вышэй названых расьлінаў, шмат яшчэ ёсьць красак рожнага гатунку, з якіх пчолы бяруць сабе мёд, запыляючы іх і забясьпечваючы іх далейшае істнаваньне на зямлі.

*Пчаляр.*

---

## 10 запаведзяў гаспадара.

1. Пераходзь ад трохпалёўкі да шматпалёўкі.
2. Паляпшай глебу ўгнаеньнем і апрацоўкай.
3. Ужывай для апрацоўкі зямлі добрыя прылады і машыны.
4. Падрыхтоўвай розныя кормы на полі.
5. Запасай рознастайныя спажыўныя прадукты на полі і ў гародзе.
6. Пашырай сяўбу прамысловых расьлін.
7. Пераходзь ад гадоўлі жывёлы, якая прыносіць толькі гной, да гадоўлі прадукцыйнай.
8. Паляпшай харчаваньне рагатае жывёлы, даючы караньплоды, бульбу і моцны корм, асабліва жмыхі і муку бабовых расьлін.
9. Пушчай да сваіх кароў быкоў дарослых, не маладзей $1^1/_2$ года, якія паходзяць ад добрых па ўдою і здаровых кароў.
10. Набывай на племя жывёлу толькі ад удойных кароў і добрых быкоў і ўхіляйся набываць маладняк з хворага стада.

---

## З жыцьця Наваградчыны.

### Вынікі цемнаты.

Перад некалькі днямі ў в. Гербалевічах, Слонімскага пав. сабраўся натоўп сялян, каля 70 асоб, пераважна кабет, перад домам, дзе жыў землямер, які даконваў памераў у зьвязку з пераходам в. Гербалевічаў на хутары. Натоўп не дапусьціў каморніка да памераў, а нанятым работнікам адабралі сякеры. Кабеты пачалі кідаць каменьнямі ў работнікаў.

Прыбылая на месца паліцыя заклікала натоўп разыйсьціся, і хацела аднаго з павадыроў затрымаць, да чаго аднак натоўп не дапусьціў. У зьвязку з гэтым некалькі сялян арыштована.

### Разбудова земляробскай школы ў Беразьні.

Міністэрства Земляробства прызнала крэдыт у высокасьці 10 тысяч зл. на разбудову дзявочай земляробскай школы ў Беразьні, Стаўпецкага пав. Крэдытам будзе распараджацца спэцыяльны ў гэтай мэце выбраны камітэт.

### Народны дом у Кастровічах.

У Кастровічах, кастравіцкай воласьці, стараньнем энэргічных адзінак, арганізована філія Т-ва Народнага Дому ў Слоніме. Пакуль што на арганізацыйным сходзе на сяброў Т-ва запісалася 28 асоб.

### Каса Стэфчыка.

У вёсцы Ішколдзі, Вальнянскай воласьці, адбылўя дня 17 траўня г. г. арганізацыйны сход

касы Стэфчыка. Сабраныя пастанавілі заснаваць касу ў в. Ішколдзі.

Паі ўстаноўлены ў высокасьці 25 злотых. Выбрана Наглядная Рада і падпісаны статут і пастаноўлена зьвярнуцца да ўладаў, каб зацьвярдзіць статут.

### Агульны сход сяброў малачарскай коопэратывы ў Вольнай.

6-га красавіка г. г. адбыўся агульны сход малачарскай коопэратывы ў Вольнай пры ўдзеле 48 сяброў.

Дасюлешні ўрад даў справаздачу з дзейнасьці, якую сабраныя прынялі да ведама.

На старшыню выбрана Дымітра Гэрасімовіча, на скарбніка Аляксандра Макарэвіча. Малачарня паўстала 1-га сакавіка 1927 г.

Дня 31.XII 1927 г. коопэратыва мела 98 сяброў і 152 паі. У гэтым часе перароблена 50.530 літраў малака.

### Чугунка Слонім-Наваградак-Маладэчна.

20-га траўня г. г. адбылася скліканая праз п. ваяводу Бэчковіча конфэрэнцыя ў справе будовы чугункі з Наваградку да Маладэчна і Слоніма.

Думка будовы чугункі, якая перарэзвала-б абшар Наваградзкага ваяводзтва менш-больш на палову, існавала ўжо даўно. Дасюлешнія дзьве чугункі, якія праходзяць праз Наваградзкае ваяводзтва, для патрэбаў гаспадарскіх нашага краю не хапаюць.

Цэлая сярэдзіна ваяводзтва са сваімі лясьнымі багацтвамі ня можа быць у належнай меры вызысканая, бо адлежнасьць ад чугункі вельмі вялікая, і кошты транспарту забіраюць заробак падрадчыка.

З існуючых чугунак толькі адна ідзе на захад, г. зн. Стоўпцы-Баранавічы-Слонім.

Чугунка Баранавічы-Ліда-Вільня мае напрамак, які для Наваградзкага ваяводзтва мае толькі мясцовае значэньне.

Толькі чугунка Маладэчна-Наваградак-Слонім, ідучы з паўночнага ўсходу на палуднёвы ўсход і лучачы тэрэны ваяводзтва з галоўнай лініяй Стоўпцы-Беласток-Варшава, мае для гэтых земляў вялікае значэньне і будзе вялікім узьдзьвігам гаспадарскага жыцьця.

Нічога дзіўнага, што наваградзкае грамадзянства з вялікім заінтэрасаваньнем адносіцца да думкі будовы чугункі. Дзякуючы ініцыятыве п. ваяв. Бэчковіча думка гэная ўваходзіць на зусім рэальныя торы.

Заінтэрасаваныя гаспадарскія і прамысловыя сфэры далі згоду прыйсьці з дапамогай, біручы на сябе частку коштаў, г. зн. каля 20% і біручы на сябе цяжар сфінансаваньня будовы пры помачы загранічных капіталаў.

Паводле правізарычнага праекту, чугунка ішла-б з Маладэчна праз Першаі, Івенец, Налібокі, Шчорсы, Наваградак, дзе крыжавалася-б з другой лініяй Ліда-Баранавічы, ішла-б наступна праз Дзятлава, Казлоўшчыну да Слоніма.

На канфэрэнцыі пастаноўлена, што далейшыя нарады над рэалізацыяй праекту будзе весьці Камітэт у складзе 5 асоб з кожнага павету, зложаных з прадстаўнікоў самаўраду, местаў, промыслу і зямельных уласьнікаў.

Камітэт мае сабрацца ў канцы траўня. Да гэтага часу будуць прыгатаваны статыстычныя матэрыялы, якія дазволяць стварыць абраз будучай даходнасьці гэтай чугункі.

Падкрэсьліць належыць, што праектаваная чугунка можа зьмяніць радыкальна гаспадарчы выгляд земляў наваградзкага ваяводзтва, каторых росквіт быў стрыманы праз недастатак сродкаў камунікацыі і немагчымасьці вызысканьня натуральных багацтваў краю. Спадзявацца трэба, што гаспадарчыя, як і грамадзянскія чыньнікі даложаць усялякіх стараньняў, каб думка будовы чугункі Слонім-Наваградак-Маладэчна была зрэалізавана ў найбліжэйшым часе.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Дамаганьне заснаваньня незалежнай беларускай праваслаўнай мітраполіі.

Праваслаўныя беларускія сфэры пачалі энэргічную акцыю з мэтай заснаваньня ў Вільні незалежнай праваслаўнай мітраполіі.

### Інтэрпэляцыя беларускага пасольскага клюбу.

23 траўня г. г. Беларускі Пасольскі Клюб падаў інтэрпэляцыю з жаданьнем правядзеньня дакладнага сьледзтва ў справе забойства дня 20 траўня ў павеце Маладэчанскім праз паліцыянта Роўбу двох сялян братоў Гэрвінскіх.

### Звальненьне з вастрогу.

Судовыя ўлады згадзіліся звольніць з Лукіскай турмы пад залог гэткіх беларускіх дзеячоў: Дварэцкага, Булыгу і Краўчонка. Жаданы залог заплаціў пасол Стэповіч.

### З Беларускае Гімназіі.

Школьны Куратарыюм згадзіўся назначыць для беларускай гімназіі ў Вільні экзамінацыйную камісію. Выпускны экзамін вучні будуць здаваць пры дзяржаўнай камісіі ў беларускай мове, апрача экзаміну з польскай мовы.

### Мэморыял Беларусаў да Апостальскага Нунцыя.

Беларусы з Жодзіскай парафіі зьвярнуліся з мэморыялам да Апостальскага Нунцыя ў Варшаве, у якім дамагаюцца ў Жодзіскім касьцёле набажэнства ў беларускай мове.

## Апошнія навіны.

**Літва. Новая літоўская канстытуцыя.** 25.V. г.г. прэзыдэнт літоўскай рэспублікі за згодай габінэту міністраў і дзяржаўнага кантралёра зацьвярдзіў аканчальна літоўскую канстытуцыю.

Новая канстытуцыя наагул дае вялікія правы прэзыдэнту рэспублікі. Сталіцай Літвы паводле новай

констытуцыі ёсьць Вільня. Сталіца можа быць перанесена ў іншае места толькі часова на падставе спэцыяльнай уставы.

**Праф. Вальдэмарас у Лёндане.** Прэм'ер літоўскіх міністраў праф. Вальдэмарас паехаў у Лёндан. Там яго прыймаў ангельскі міністар заграничных справаў Чэмбэрлен і англійскі кароль.

**Польска-літоўская камісія ў Бэрліне.** Польска-літоўская мяшаная камісія да юрыдычных справаў і мясцовага гранічнага руху дайшла да паразуменьня. Умова будзе парафавана, а можа і падпісана.

**Нямеччына. Узрыў атрутных газаў пад Гамбургам.** На днях наступіў узрыў атрутнага газу, званага „фосгэнам“ пад Гамбургам. Газ разышоўся ў паветры і пагражаў сьмерцяй тысячам людзей. На шчасьце пашоў дождж, і хвалі газу былі ўбіты ў зямлю. Аднак не абышлося без ахвяраў. Больш, чым 20 чалавек атруцілася і памёрла ўжо, а пара сотак іншых прабывае у бальніцах Гамбургу. Штодзень прыбываюць новыя ахвяры. Опінія цэлага сьвету ўстрывожылася гэным выпадкам. Фабрыка, ў якой меў месца ўзрыў, вырабляла атрутныя газы для Нямеччыны і Савецкай Расеі.

Газ „фосгэн“ вынайшоў англійскі хімік Давы, меў ён служыць землеробскім мэтам. Спосаб фабрыкацыі гэтага газу палягае на зужыткаваньні соўнечнага сьвятла і таму і назоў гэнага газу „фосгэн“, што азначае панямецку „зроджаны з сьвятла“. Падчас вайны немцы ўжывалі яго да гранатаў і бомбаў.

Па вайне нямецкія хімікі выдасканаліліся ў выраблянні гэнай атруты. Дзейнасьць фосгэну так сільная, што пры прысутнасьці ў кубічным літры паветра 45 міліграммаў (міліграм = $^{1}/_{1000}$ грама) фосгэну, людзкі арганізм затручваецца. Фосгэн нішчыць лёгкія і чалавек паміраe.

**Вынікі выбараў у Нямеччыне.** 20 траўня адбыліся выбары ў нямецкі парлямэнт. Вялікую перамогу падчас выбараў здабылі нямецкія сацыялістыя, а часткова і камуністыя. Наагул шмат мандатаў страцілі нямецкія нацыяналістыя.

**Кітай.** У Кітаі хатняя вайна нанова разгарэлася. Войскі Чанг-Кай-Шэка аднесьлі перамогу над войскамі Чанг-Тсо-Ліна. Цяпер ідуць баі пад сталіцай Кітаю Пэкінам.

Пэкін здабываюць войскі Чанг-Кай-Шэка, правадыра адраджэнскага Кітаю.

У вайну ўмяшалася Японія, якая выслала на абарону сваіх грамадзян і канцэсіяў войскі. Дайшло да баёў і Японцы былі пабіты. З свайго боку Кітай патрэбаваў скліканьня Рады Лігі Народаў для разгляду кітайскага пратэсту процітў збройнай інтэрвэнцыі Японіі ў Кітаі.

**Францыя.** У Альзац-Лётарынгіі, француcкай правінцыі, далучанай пасьля вайны да Францыі ад Нямеччыны, некалькі тыдняў адбываўся працэс г. зв. альзацкіх аўтанамістых, якім акт абвінавачаньня закідаў імкненьне адарваць Альзац-Лётарынгію ад Францыі.

Прыгаварам францускага суда 4 абвінавачаных: Рыклін, Россэ, Фасшаўэр і Шалль засуджаны па году турмы за удзел у сьпіску скіраваным процiў францускае рэспублікі. 10 абвінавачаных апраўдана.

Працэс гэты вельмі падобны да працэсу Грамады. Рабіліся тыя самыя закіды: арганізаваньне сьпіску і зносіны з Нямеччынай. Але прыгавар куды ласкавейшы, чымся той, які спаткаў грамадоўцаў.

---

# СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

## Камуніст.

Да ведамага свaей прыхільнасьцяй да камунізму селяніна зьвяртаецца другі, якому той тлумачыў выгады гэнага вучэньня:

— Дык ты аддаў-бы грамадзе, напр., каня?
— Даў-бы.
— І карову?
— Але, і карову.
— І цялё?
— Э, цялё, то не... жыва адказвае той.
— Чаму-ж цялё не дасі?
— Бо я-ж ня маю ані каня, ані каровы. А цялё ў мяне маё ўласнае, дык з якой-жа ласкі я яго некаму буду аддаваць?...

## Якая хвароба?

Бяда ў пана тварыцца,
Пані спаць ня йдзе лажыцца.
Абудзіўшыся ад раньня,
Ужо ня спала да сьняданьня,
Па сьняданьні адпачнула,
Да абеду так заснула,
Па абедзе задрамала,
Да палудня гэтак спала.
Па палудні пані ела,
А пад вечар захварэла.
Як хваробу ёй назваць,
Што ня хоча есьці й спаць?

## У судзе.

— Што вы тут робіце?
— А я сьведкам.
— У якой справе?
— Э, справа знойдзецца!...



Адказны Рэдактар і выдавец Ф. Уміястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3